ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 44 (2238)

31 кастрычніка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



**Падзея, якая мае ўсе шанцы стаць гістарычнай. Такой думкі аб падпісаным у Маскве 18 кастрычніка 1991 года Дагаворы аб эканамічным супольніцтве суверэнных дзяржаў Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў. Але ці станецца так, як гэта бачыцца Прэзідэнту? Адны з палітыкаў спадзяюцца, што, нарэшце, пасля доўгай тузаніны, мы апынуліся па нашай волі ў адной вупражцы і выцягнем дружна, разам воз эканамічных праблем з багны перабудовы. Другія, наадварот, што разам пойдзем у бездань і загінем пад абломкамі СССР. А знявераны няздатнай палітыкай народ чакае, калі ж нарэшце настане нейкі лад і парадак.**

**Пакуль пад Дагаворам паставілі свае подпісы прадстаўнікі толькі васьмі рэспублік. Хто будзе наступны?**

**НА ЗДЫМКУ: Дагавор падпісвае Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў ШУШКЕВІЧ (у цэнтры).**

## АДЗІН З ТЫХ, КАМУ МЫ ЎДЗЯЧНЫ

Герман Бідэр — вядомы аўстрыйскі славіст, кампетэнтны спецыяліст у галіне лінгвістыкі, дасведчаны даследчык у сферы параўнальнага мовазнаўства, чалавек, апантаны любімай працай. Спалучыўшы свой лёс з беларусістыкай, ён унёс значны ўклад у распрацоўку яе праблем, асабліва старажытнай беларускай мовы. Дасканалае валоданне многімі славянскімі і еўрапейскімі мовамі дало мажлівасць яму весці лінгвістычныя даследаванні ў шырокім і разнабаковым параўнальным дыяпазоне. Сваю навуковую дзейнасць даследчык канцэнтруе, галоўным чынам, у сферы славянскай, германскай і агульнай лексікалогіі, семантыкі, словаўтварэння і фаналогіі. Яна ахоплівае і такія напрамкі, як сінхронная і дыяхронная лінгвістыка, моўныя кантакты, канцэпцыя эвалюцыі моваў, гісторыя мовы і лінгвагеаграфія. Даводзіцца толькі здзіўляцца багаццю і разнастайнасці яго навуковых інтарэсаў.

Нарадзіўся вучоны 21 кастрычніка 1941 года ў Паўночнай Аўстрыі, у вёсцы Маркерсдорф. Ужо з малых гадоў, калі вучыўся ў народных школах Міхельсбаха, Кляме і Лабена, ён адчуў



здольнасці да мовы. І ўсё ж рэалізм жыцця аказаўся мацнейшым, і юнак у 1956 годзе паступіў у гандлёвую школу горада Сант-Пёлтэна, а затым і ў Першую гандлёвую Акадэмію Венскага гандлёвага аб'яднання. Аднак паступова цяга да лінгвістыкі перамагла. З 1961 года ён студэнт Інстытута замежных моваў Венскага універсітэта, дзе вывучае русістыку, а пасля там жа прадаўжае вучобу па спецыяльнасці — славістыка і ўсходнееўрапейская гісторыя. У 1970 годзе Г. Бідэр абараняе кандыдацкую дысертацыю, пасля чаго пакідае Вену і пераязджае ў Інстытут славістыкі Зальцбургскага універсітэта. Там ён абараняе доктарскую дысертацыю і атрымлівае пасаду дацэнта.

У час працы ў Зальцбургскім універсітэце Г. Бідэр асаблівую цікавасць праявіў да структурнай лінгвістыкі славянскіх моваў і распачаў вывучэнне іх гістарычных, функцыянальных і дыялектычных варыянтаў. Адным з аб'ектаў яго даследавання становіцца старабеларуская мова XIV — XVII стагоддзяў. Яе праблематыка знайшла адлюстраванне ў больш як дзесяці працах Г. Бідэра. Важнае значэнне ў гэтым кантэксце набывае навуковы разгляд некаторых лінгвістычных аспектаў старабеларускай юрыдычнай мовы. Іх даследаванню аўстрыйскі славіст прысвяціў такія значныя публікацыі, як "Літоўскі Статут 1529 года" (заўвагі да гістарычнай арфаграфіі і фанетыкі старабеларускай юрыдычнай мовы) і "Літоўскі Статут 1588 года" (фанетыка беларускай мовы ў

(Заканчэнне на 5-й стар.).

**"Банк аказвае і некаторыя паслугі. Напрыклад, каб купіць сваякам у Беларусі дэфіцытны для іх тэлевізар ці халадзільнік, замежны дарыльшчык павінен прайсці праз немалыя клопаты. А банк за валюту, але па больш нізкіх за сусветныя цэнах купіць і даставіць па адрасу мінскія халадзільнікі і тэлевізары, якія ў Заходняй Еўропе ідуць пад маркай "Філіпс" і карыстаюцца попытам".**

*Аб гэтым і іншых накірунках у галіне эканамічнага і фінансавага супрацоўніцтва Мінскага камерцыйнага банка "Беларусь" з замежнымі суайчыннікамі чытайце ў артыкуле Кастуся ШАЛЯСТОВІЧА "АЎЧЫНКА ВЫРАБУ ВАРТАЯ" на 3-й стар.*

ВОСЕНЬ... ...а падводзіць рахунак сёлетняй працы, падпісной кампаніі на бягучы год, якая, па ўсяму відаць, рубам паставіць беларускамоўным друкаваным выданням пытанне дацкага прынца "быць ці не быць". І толькі за тое, што яны на сваёй гістарычнай зямлі маюць "няшчасце" выходзіць на сваёй жа бацькоўскай мове... І часамі цяжка даць веры, што недзе за дзесяткі тысяч кіламетраў ад Бацькаўшчыны жывуць людзі, якія шануюць і берагуць гэтую мову не дзеля давеска да асабістай духоўнасці і вялікага культурнага багажу, а як неабходны сродак зносін паміж сабой. Напрыклад, беларусы Аўстраліі. У "Голасу Радзімы" з імі ўсталяваліся трывалыя сувязі. Некалькі дзён таму рэдакцыю наведаў старшыня выканаўчага камітэта Федэрацыі беларускіх арганізацый гэтай краіны, спадар Яўген Груша.

— Мы з вялікім задавальненнем і цікавасцю чытаем ваш штотыднёвік, — сказаў ён. — Асабліва падабаюцца матэрыялы на гістарычныя тэмы, пра жыццё бацькоўскага краю.

Госць падмацаваў сказанае канкрэтыкай: заказамі на падпіску і даткамі ў валюце ў фонд дапамогі газеце ад імя яе аўстралійскіх чытачоў-беларусаў. Безумоўна, гэта была не адзіная патрэба, якая прывяла Я. Грушу на Радзіму. Пасланец федэрацыі ўласнаручна перадаў Гомельскай абласной бальніцы 40 тысяч аднаразовых шпрыцаў, 2 тысячы камплектаў для пералівання крыві, эндаскоп. І гэта не першыя ахвяраванні сяброў беларускіх арганізацый у Аўстраліі, што былі дасланы ахвярам трагедыі праз Беларускі дабрачынны фонд "Дзеці Чарнобыля". А менавіта ён запрасіў Яўгена Грушу на Беларусь. Падчас знаходжання ў Мінску беларус з далёкіх аўстралійскіх краёў сустрэўся з актывам гэтай дабрачыннай арганізацыі і яе старшынёй народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Г. Грушавым. На сустрэчы ўзнімаліся і абмяркоўваліся шматлікія тэмы: дзейнасць Беларускага фонду па аздараўленню дзяцей, пацярпеўшых ад аварыі, за мяжой, мажлівасць удзелу ў гэтым працэсе Федэрацыі беларускіх арганізацый у Аўстраліі, суб'ектывізм і абыякавасць да чарнобыльскай бяды з боку пэўных грамадскіх і дзяржаўных установ рэспублікі і Саюза, праблематыка супольных высілкаў па аказанню дапамогі беларускаму народу ў адносінах паміж імігрантамі беларускага і рускага паходжання ў Аўстраліі.

## АЎСТРАЛІЙСКІЯ БЕЛАРУСЫ — АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Больш падрабязны расказ пра знаходжанне прадстаўніка беларускіх сябрын з Аўстраліі на Бацькаўшчыне мы плануем змясціць у адным з наступных нумароў.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

*ЛІТВА — БЕЛАРУСЬ*

## ПАДПІСАНА ДЭКЛАРАЦЫЯ



22 кастрычніка адбыўся першы ў кароткай гісторыі суверэнных дзяржаў Беларусі і Літвы візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Вітаўтаса Ландсбергіса. Перад пачаткам перагавораў В. Ландсбергіс усклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску.

Адбылася яго кароткая дзелавая сустрэча са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. Затым пачаліся перагаворы дэлегацый дзвюх краін па шырокаму спектру праблем двухбаковых адносін. Пасля іх завяршэння кіраўнікі дэлегацый ацанілі дыялог як поўнае ўзаемаразуменне.

У другой палавіне дня В. Ландсбергіс і члены дэлегацыі пабывалі ў Курапатах, дзе ўсклалі кветкі да мемарыяльнага знака памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Кіраўнік Літоўскай дзяржавы і члены дэлегацыі прынялі ўдзел у вячэрнім пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. В. Ландсбергіс выступіў перад беларускімі парламентарыямі з прамовай.

Позна вечарам 22 кастрычніка дэлегацыя гасцей адбыла ў Вільнюс.

А праз дзень Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч паехаў з афіцыйнай дэлегацыяй у Вільнюс.

Беларуская дэлегацыя ўсклала кветкі на магілы ахвяр 13 студзеня 1991 года, сустрэлася з прадстаўнікамі беларускага насельніцтва Літвы.

Была падпісана Дэкларацыя аб добрасуседскіх адносінах паміж Літвой і Беларуссю.

Яшчэ раз пацверджана, што дзяржавы не маюць ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій адна да адной, даюць гарантыі нармальнага развіцця нацыянальным меншасцям. Абедзве дзяржавы прызнаюць этнічную, культурную самабытнасць беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі і абавязваюцца забяспечыць ім умовы для свабоднага развіцця гэтай самабытнасці.

**НА ЗДЫМКУ: В. ЛАНДСБЕРГІС ускладае вянок у Курапатах.**

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*




**У Мінску прайшла міжнародная спецыялізаваная выстаўка абсталявання і тэхналогій мэблевай і дрэваапрацоўчай вытворчасці "Дрэваапрацоўка-91". Каля ста фірм, прадпрыемстваў і арганізацый з 10 краін прадэманстравалі свае дасягненні ў гэтай галіне. Цэнтральнае месца на выстаўцы заняло абсталяванне для мэблевай вытворчасці. Асаблівая ўвага была ўдзелена тэхналагічным працэсам вырабу сыравіны з нізкаякаснай драўніны і адходаў лесанарыхтовак і дрэваапрацоўкі.**

**Фінская фірма "Фексіма", напрыклад, прадэманстравала макеты лесапільных заводаў і прадпрыемстваў па вытворчасці сталярных вырабаў, клееных канструкцый і рубленых дамоў.**

**А самую вялікую плошчу — 200 квадратных метраў занялі экспанаты германскай фірмы "Багдан Шульц", вядомай у нас у рэспубліцы не толькі сваімі неадназовымі дабрачыннымі акцыямі. Сёння на многіх дрэваапрацоўчых прадпрыемствах Беларусі працуюць сучасныя станкі і лініі, купленыя пры пасрэдніцтве гэтай фірмы. Арганізатарамі міжнароднага агляду "Дрэваапрацоўка-91" выступілі ўсесаюзнае аб'яднанне "Экспацэнтр" і Мінскпраектмэбля, якія лічаць, што экспазіцыя паслужыць інтэнсіўнаму тэхналагічнаму абнаўленню рэспубліканскай мэблевай вытворчасці, абмену перадавой навукова-тэхнічнай інфармацыяй і наладжванню новых гандлёва-эканамічных сувязей з замежнымі краінамі.**

**НА ЗДЫМКУ: у выставачным павільёне.**

*ПОШУКІ КАНТАКТАЎ*

## ПАРЫЖСКІЯ СУСРЭЧЫ М. МЯСНІКОВІЧА

У выніку перагавораў і сустрэч першага намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча, які 6—9 кастрычніка на чале дэлегацыі знаходзіўся з рабочым візітам у Францыі, быў падпісаны пратакол аб рэканструкцыі нафтаперапрацоўчых заводаў у Мазыры і Наваполацку. У ім выкладзены асноўныя падыходы французскага і беларускага бакоў да фінансавання праектаў і разлікаў, вызначаны этапы будаўніцтва і фінансавання, а таксама канкрэтныя меры па завяршэнню падрыхтоўкі адпаведных дакументаў да 1 снежня 1991 года.

Французскі бок выказаў гатоўнасць да ўсебаковага садзейнічання ў наладжванні прамых эканамічных сувязей. Намячаецца супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі ў самых розных галінах, уключаючы і сустрэчы паміж членамі парламентаў.

*ГІСТОРЫЯ*

## НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Гродне прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя па рэгіянальнай гісторыі Усходняй Еўропы. Тры дні вучоныя Расіі і Украіны, Літвы і Беларусі, Польшчы, Ізраіля, Англіі прысвяцілі абмеркаванню пытанняў культуры народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII — пачатку XX стагоддзяў. Больш за сто дакладаў было падрыхтавана на форум. Іх галоўныя тэмы — навука і асвета, мастацтва і архітэктура, палітыка і права нашых продкаў.

*ПСІХІЧНЫЯ ЗАХВОРВАННІ*

## ВІНАВАТЫ СТРЭСЫ

У рэспубліцы ўзяты на ўлік 340 тысяч псіхічна анамальных дзяцей. Толькі ў Мінску адкрыта 10 школ для дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця і алігафрэнаў. У цэлым жа "пагранічны стан" — паміж неўрозам і больш цяжкімі формамі псіхічнага расстройства здароўя — адзначаецца ў 70—80 працэнтаў беларускіх дзяцей. Усё гэта, на думку спецыялістаў, — вынік тых стрэсаў, з якіх цяпер складаецца савецкае жыццё, уключаючы і самы цяжкі перыяд — чарнобыльскі.

*"Пры палітычнай незалежнасці Беларусі яе эканамічныя зносіны з іншымі рэспублікамі і дзяржавамі будуць паглыбляцца, пашырацца і набываць рацыянальны, разумны характар. Гэта абавязкова, але ўсё роўна між тым нас чакаюць вялікія ахвяры. Пагэтаму жыццёвы ўзровень будзе падаць, ва ўсялякім разе ў бліжэйшыя гады.*

*Нам трэба разумець, што мы павінны ісці на пэўныя ахвяры, як тое разумеюць іншыя нацыі. Я баюся, што беларусы і ў гэтым акажуцца апошнімі, бо ў нас існуюць кінутыя бальшавіцкімі прапагандыстамі элементарныя схемы накшталт: "А што, калі самастойнасць, дык кілбасы будзе больш? Не будзе? Тады не трэба і самастойнасці". Вось гэтыя стэрэатыпы павінны быць адкінуты. Апрача эканамічнай мэтазгоднасці суверэннасць мае і духоўны сэнс. А менавіта: самастойнасць патрабуе ахвяр. Поспех, дабрабыт, удача, шчасце залежаць менавіта ад меры ўсведамлення, ад меры гатоўнасці да гэтых ахвяр... Я не ведаю, не ўпэўнены, ці гатовы беларусы на такія выпрабаванні. Відаць, гэта пакажа будучыня".*

*Васіль БЫКАЎ,*
*народны пісьменнік*
*Рэспублікі Беларусь.*

*ПРАДПРЫМАЛЬНАСЦЬ*

## ПАЛЯВАННЕ НА ДОЛАРЫ

Бабінавіцкая паляўнічая гаспадарка, што ў Сенненскім раёне Віцебскай вобласці, ужо другі год запрашае на паляванне іншаземных турыстаў. Прыязджаюць большасцю італьянцы. Іх цікавяць трафеі: рогі лася, аленя, іклы дзіка, мяса ж застаецца ў гаспадарцы. Яго потым рэалізуюць дзяржаве. За трафей плацяць у залежнасці ад яго якасці. Лось з невялікімі адросткамі рагоў каштуе 200 долараў, з пяццю адросткамі — да 500, іклы дзікоў 60—80 долараў. Акрамя таго, кожны італьянец плаціць па 100 долараў за суткі абслугоўвання і пражывання.

За тры туры камерцыйнага палявання гаспадарка ўжо зарабіла амаль 9 000 інвалютных рублёў.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

● Магчымасці грамадзян Беларусі адправіцца ў падарожжа за мяжу абмежаваны... пашпартам. Адзіная ў Саюзе фабрыка, якая іх выпускае, перагружана, таму патрэбнасць рэспублікі ў такіх дакументах задавальняецца толькі напалавіну. Дарэчы, замежны пашпарт каштуе ахвочаму падарожніку 1001 рубель.

● Спецыяльнае падраздзяленне міліцыі створана ў Брэсце. Яно павінна займацца барацьбой з арганізаванай злачыннасцю. Першая яе акцыя — затрыманне групы, што рабавала машыны тых, хто ехаў за мяжу або вяртаўся адтуль.

● Выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, Вітаўтас Ландсбергіс папярэдзіў, каб мы не здзіўляліся: можа быць, што афіцыйна Літва стане ўжываць замест "Рэспубліка Беларусь" — "Гудзіёс Рэспубліка". Аргумент Старшыні Вярхоўнага Савета Літвы — нібыта ў старажытнасці жмудзіны называлі беларусаў "гудай".

● Вядомы мастацтвазнаўца Уладзімір Няфёд падрыхтаваў манаграфію пра выдатнага дзеяча нацыянальнай культуры, заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра Ігната Буйніцкага.

Кніга "Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра" выйшла тыражом... 1 800 экземпляраў.

● Забаставалі сяляне ў калгасе "Сцяг Леніна" Кобрынскага раёна. Прычына — нізкая заработная плата. Замест абяцанага павышэння ўсім, зарплату паднялі толькі адміністрацыі.

● Упершыню на сесію Вярхоўнага Савета Беларусі допушчана карэспандэнт беларускай філіі радыё "Свабода" Ларыса Верас. Яна акрэдытавана прэс-цэнтрам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

ПРЫЕМНАЕ ЗАЧАРАВАННЕ БУРЖУАЗІІ

# АЎЧЫНКА ВЫРАБУ ВАРТАЯ

Наша гаспадарка, бы той растрапаны воз, імчыць з гары развітога сацыялізму, аглоблі і драбіны ў розныя бакі разлятаюцца. І ўсе па калдобінах. Трасяніна такая, што не толькі апошнюю макавую расінку з пустой міскі, але і душу вытрасе. Злых, страціўшых надзею і цярпенне седакоў супакойваюць бясконцымі прамовамі наконт цяжкай дарогі ў пераходны перыяд да такога пажаданага рынку. Хто-колечы называе гэты час перыядам першапачатковага накаплення капіталу, брудным, хцівым і бязлітасным. А больш вушлыя накопліваюць, ірвуць з паклажы, якая нядаўна была быццам бы агульнанародным багаццем, тлустыя кавалкі. Хто не спіць у шапку, той збірае мамону, хто спіць — лаецца. Сталыя людзі, сучаснікі першай сусветнай вайны і таго, "дасацыялістычнага" накаплення, перажываюць deja vu (па-французску — ужо бачанае): ізноў фарцоўшчыкі, перакупшчыкі, жабракі, фірмы, біржы, ценявая эканоміка... А каму пашанцавала накапіць капіту, не трымае яе, як некалі пад сеннікам ці ў панчосе, а нясе ў банк.

## РАСТКІ НОВЫХ АДНОСІН

**Я. КУПЧЫН, адзін з распрацоўшчыкаў "Закона аб нацыянальным банку" і "Закона аб банках і банкаўскай дзейнасці":**

**Ці трэба пераконваць, што банкі — крывяносная сістэма ўсяго эканамічнага арганізму дзяржавы. Банкаўскі сектар айчыннай гаспадаркі першым пачаў пераходзіць да рыначных адносін. Сведчанне таму — стварэнне незалежнага ад урада Нацыянальнага банка Беларусі, як першага самастойнага ўзроўню банкаўскай галіны і сеткі камерцыйных банкаў, як другога на месцы існаваўшага да 1988 года Джяржаўнага банка, па сутнасці, адзінаўладнай размеркавальна-раздатачнай касы дзяржавы. Іменна камерцыйныя банкі — гэта першыя расткі новых рыначных адносін. Можаце пераканацца на прыкладзе Мінскага камерцыйнага банка "Беларусь".**

... Ён вядзе сваю біяграфію з 1990 года. Тады пятнаццаць будучых яго пайшчыкаў, міністэрствы, ведамствы, супольныя прадпрыемствы прынялі рашэнне залажыць трывалае апірышча свайго ж гаспадарання, заснаваць камерцыйны банк "Беларусь". Пры гэтым кожны з заснавальнікаў, па словах старшыні праўлення банка Тамары Віннікавай, дбаў і дбае ў першую чаргу пра асабісты інтарэс. Савецка-амерыканска-польскае прадпрыемства "Анкор" — пра больш высокі працэнт за свае ўкладзеныя сродкі. Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі зацікаўлена ў тым, каб банкаўскія крэдыты, сканцэнтраваныя ў адных руках, садзейнічалі развіццю гэтай галіны, і г. д. А пачынаўся гэты сур'ёзны гешэфт з ініцыятывы старшыні, аднаго пакоя, тэлефона, некалькіх кліентаў і 11 мільёнаў актываў. Арыфметыка — матэрыя дакладная і пераканаўчая: праз паўгода колькасць кліентаў дасягнула 103. Праз дзевяць месяцаў — 502, што па тэмпах прыблізна супадала з ростам актываў, адпаведна 150 і 683 мільёны рублёў. Сёння па велічыні выплачанага статутнага фонду, 65 мільёнаў рублёў, установа ўваходзіць у лік першых 50 банкаў былога Саюза (з агульнай іх колькасці 2 тысячы). Цяпер у рэспубліканскай ба[illegible]каўскай сетцы мінскі банк "[illegible]ларусь" пачуваецца самай бу[illegible]ной і прадстаўнічай ячэйкай.

**А. ВОЛКАВА, вядучы спецыяліст камерцыйнага аддзела "Беларусі":**

**Наш банк выконвае фун[illegible]цыі, уласцівыя банкам гэта[illegible] тыпу: прымае і размяшчае ўклады, атрымоўвае і выдае крэдыты, прымае на захаванне каштоўнасці, ажыццяўляе знешнеэканамічныя аперацыі і многае іншае. Ён створаны перш за ўсё дзеля патрэб кліентаў, для аказання дапамогі прадпрымальнікам. Знаходзіць ім партнёраў, забяспечвае бакі неабходнай інфармацыяй.**

Арыфметыка арыфметыкай, а жыццё жыццём. Не думаю, што ў пераважнай большасці членаў нашага грамадства тэрмін "камерцыйны" выклікае прылыў энтузіязму. Надта лёгкія на ўспамін камерцыйныя магазіны. Імпартныя чаравікі там абыходзяцца пакупніку ў два ці тры месячныя заробкі. Задужа... Дзесьці падобныя аргументы, канешне, у перакладзе на спецыфіку камерцыйных банкаў, прыводзяць іхнія апаненты. Маўляў, высокі працэнт бяруць па крэдытах, маўляў, ліхвярства...

**Т. ВІННІКАВА, старшыня праўлення банка "Беларусь":**

**Трэба разумець, у адносінах да чаго і каго яны высокія. Да з'яўлення камерцыйных дзяржаўныя банкі тае пары бралі ў сярэднім два працэнты гадавых. Нідзе ў свеце такой практыкі няма, гэта ж дарма, таму і разбазараваліся тыя крэдыты... Акрамя таго сама дзяржава прадае нам іх пад 12 працэнтаў. Як жа мы можам браць менш. Высокія працэнты мы здымаем толькі з пасрэдніцкіх фірм. А там, дзе ажыццяўляецца вытворчасць тавараў народнага спажывання, развіццё новых тэхналогій, прыватызацыя, мы працуем з мінусам для сябе. У Беларусі, да вашага ведама, самыя танныя крэдыты, да 15 працэнтаў, ліхвярскіх у нас няма. За перыяд існавання нашых банкаў, з 1988 года, а я да таго ж з'яўляюся старшынёй Асацыяцыі банкаў гэтай сістэмы, ніводнай скаргі ад дзяржаўных прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў на гэты конт мы не атрымалі. З боку пасрэдніцкіх фірм былі. Але ж яны нічога не вырабляюць, а проста перавозяць тавар з горада ў горад, атрымліваючы на гэтым вельмі вялікія даходы.**

Значнага поспеху дасягнуў і сам банк. Паўтаруся: паўмільярдны прырост актываў менш чым за год. Ад такога скачка не адмовіўся б ні адзін, тым больш пачынаючы заходні банкір. А ў рэспубліцы 20 камерцыйных банкаў. І ўсюды ўсеагульная разруха. І банкі ставяць сваім кліентам цяпер больш жорсткія ўмовы. А кліенты, калі не ўсе, дык многія, знаходзяцца ў стане занепаду. Прылаўкі магазінаў пустыя. У чым сакрэт, ці не тлумачыцца поспех банка "Беларусь" тым, што свае крэдыты ён накіроўвае не ў прыярытэтныя галіны, а ў другарадныя, але больш выгадныя?

**Т. ВІННІКАВА:**

**Камерцыйныя банкі не могуць працаваць на тых прынцыпах, аб якіх вы гаворыце. Наш поспех — вынік дакладнага разліку, аператыўнасці, паскарэння абарачальнасці крэдытаў. Сёлета мы далі гораду тавараў шырокага ўжытку на 800 мільёнаў рублёў звыш тых планаў, якія павінны былі быць рэалізаваны на міжрэспубліканскіх пастаўках. Мы крэдытуем будаўніцтва важных аб'ектаў, выраб блокаў, цэглы, чарапіцы. У нас няма крэдытаў разавых, абы самім выйграць, ёсць толькі матэрыяльная вытворчасць. Мы рабілі стаўку на прафесійную падрыхтоўку, інтэлект супрацоўнікаў. Ужо з трэцяга курса інстытута пачынаем прыглядвацца, падбіраць там сабе кадры, добра аплачваем іхнюю працу. Працаваць трэба, вось і ўся разгадка.**

## ІДЭІ НАШЫ — ГРОШЫ ВАШЫ

Прызнаем: Мінскі банк, сапраўды, шчыруе. Да ўжо сказанага дадамо: наладзіў кантакты з 50 фірмамі, банкамі Амерыкі і Заходняй Еўропы. Але што мяне больш за ўсё зацікавіла, дык гэта адкрыццё рублёвых і валютных рахункаў замежным фірмам і грамадзянам. А гэта значыць усталяванне непасрэднага эканамічнага дыялога і партнёрства з беларускай дыяспарай. Упершыню за дзесяцігоддзі аўтарытарна-бюракратычнага рэжыму наш суродзіч з-за мяжы зможа інвесціраваць свае грашовыя набыткі ў хворую эканоміку Айчыны. І ёй дапаможа, і сабе на карысць. Якім чынам? Прывозіць у рэспубліку тавары, прадае, на заробленую суму адкрывае рахунак з правам закупкі тавараў ужо для вывазу і валюты на аўкцыёнах, удзелу ў прыватызацыі.

**В. НІКАЛАЕЎСКІ, намеснік старшыні праўлення банка па знешне-эканамічных пытаннях:**

**Рублёвы рахунак — адзін са спосабаў рабіць бізнес на Беларусі, асігнуючы свае грошы на арганізацыю супольных прадпрыемстваў. І калі з іх суайчыннік-іншаземец набудзе пэўны капітал у рублях, мы можам па яго жаданню абярнуць гэтыя фінансы ізноў у цвёрдую валюту па курсу. Аднак я раіў бы ўносіць уклады ў нашых грашовых адзінках, банк плаціць ладныя працэнты. А другое, што рубель праз год-два-тры будзе канвертаваным. Апроч таго заходнія інвестары маюць шанц стаць калектыўнымі пайшчыкамі "Беларусі", і іхнія інвестыцыі могуць выкарыстоўвацца мэтанакіравана, для рэалізацыі праектаў, якія яны альбо самі прапануюць, альбо знаходзяць у нас. Гэта таксама выгадна: рабочая сіла ў нас танная. І адшукаўшы цікавы праект, можна дасягнуць больш, чым за мяжой, эфектыўнасці.**

(З адным з такіх праектаў вас сёння ж пазнаёмяць у лабараторыі вынаходніцкіх машын, што належыць Мінскаму камерцыйнаму. Яна распрацоўвае праграмнае забеспячэнне для камп'ютэраў, якое дазваляе падняць узровень інтэлектуальнай здольнасці інжынераў у 6 000 разоў (ацэнкі замежных спецыялістаў) і якім ужо пільна зацікавіліся буйныя кампаніі Паўночнай Амерыкі.

Банк аказвае і некаторыя паслугі. Напрыклад, каб купіць сваякам у Беларусі дэфіцытны для іх тэлевізар ці халадзільнік, замежны дарыльшчык павінен прайсці праз немалыя клопаты. А банк за валюту, але па больш нізкіх за сусветныя цэны, купіць і даставіць па адрасу мінскія халадзільнікі і тэлевізары, якія ў Заходняй Еўропе ідуць пад маркай "Філіпс" і карыстаюцца попытам).

І вы думаеце, як я спачатку, што ўсе зарубежныя прадпрымальнікі асцерагаюцца распачынаць свой бізнес разам з намі і што прамы дыялог Мінскі камерцыйны банк "Беларусь" — беларускія іміґранты ёсць справа далёкай перспектывы? Як аказалася, не хто іншы, як прадстаўнікі новай эміграцыйнай хвалі, звярнуліся да банка з прапановай заснаваць у замежжы дзве яго філіі. Гэтае пытанне цяпер разглядаецца самым дэталёвым чынам.

Дарэчы, зусім не абавязкова чакаць, пакуль [illegible] стане такая філія. Беларуск[illegible]аканадаўства дае "зялёнае святло" і тым, хто вырашыць заснаваць прыватны банк на роднай зямлі. (Гэтаксама як і сваім суграмадзянам, здольным вылажыць адразу 500 тысяч некрэдытных рублёў).

Зразумела, н[illegible]акое шматабяцаючае супра[illegible]ніцтва не завяжацца без трывалых гарантый, адно на глебе хай сабе і высакародных памкненняў. Гарантамі выступаюць: ужо памянёныя, а таксама "Закон аб інвестыцыйнай дзейнасці"; прыватызацыя; жорсткія нарматывы, па якіх камерцыйныя банкі кантралююцца Нацыянальным (65 працэнтаў усіх актываў "Беларусі" рэзервуюцца на выпадак банкруцтва, падобных прэцэдэнтаў у сусветнай практыцы няма); страхаванне акцый банка; стварэнне банкам сваіх прадпрыемстваў, набыццё нерухомасці і г. д.

Згаджуся, што кепскі той кулік, які сваё балота не хваліць. Няцяжка, відаць, знайсці ў дзейнасці камерцыйнага банка "Беларусь" ахілесаву пяту. І не адну. Мяне асабіста гэта не палохае. Упершыню за апошні час я злавіў сябе на думцы, што можа годзе гараваць, маракаваць на фартуну. Не бедныя мы на інтэлект, дзелавых людзей, жаданне працаваць і не даць той фурманцы разбіцца аб слуп з надпісам "Крах", на які яна нацэлілася. (Каб прысуджаўся прыз "Дзелавая жанчына года", першым прэтэндэнтам я назваў бы Тамару Віннікаву).

Спалохала мяне іншае. Хутчэй за ўсё, што і мяне паразіла бацыла капіталізму. Ноч не спаў, усё думаў, як мне прыватны банк зафундаваць. Не хапае малой макуліны (пры цяперашнім маім заробку 100 гадоў жыцця з умовай): харчавацца рачным планктонам Свіслачы, калі ён яшчэ жывы, а з вопраткі насіць касцюм прабацькі нашага Адама. Арыфметыка дакладная і пераканаўчая... Аднак яна не датычыць замежных суайчыннікаў. Назаўтра я адбіў ім тэлекс-маланку:

*Магчымасць адкрыць на Бацькаўшчыне рублёвыя і валютныя рахункі, уласны бізнес. Аўчынка вырабу вартая.*

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# МЭР ГОМЕЛЯ



**Мэтанакіраванасць і сіла характару гэтай жанчыны заслугоўваюць павагі. Процістаянне розных груп дэпутатаў прывяло ў Гомелі да таго, што сем разоў на сесіі гарадскога Савета давялося праводзіць выбары мэра. У выніку ім стала Святлана Гальдадэ. Да гэтага яна працавала першым намеснікам старшыні Савета народных дэпутатаў і вельмі добра ведае ўсе праблемы горада. Святлана Канстанцінаўна па адукацыі — інжынер-фізік, працавала на Гомельскім заводзе радыётэхнічнага асначэння інжынерам-канструктарам. Пасля Святлану Канстанцінаўну захапіла грамадская дзейнасць.**

**— Я разумею, што ў выпадку майго выбрання бяру не залатую карону, — сказала С. Гальдадэ ў сваім выступленні перад дэпутатамі. Так, у сённяшні вельмі нестабільны час не ўсякі адважыцца на пасаду мэра, тым больш, што праблем у Гомелі — не злічыць. Ці па сілах гэтай жанчыне вырашыць іх, пакажа час.**

**НА ЗДЫМКУ: мэр Гомеля Святлана ГАЛЬДАДЗЭ.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ЦВЁРДЫЯ ГРОШЫ

На думку дырэктара Цэнтральнага эканоміка-матэматычнага інстытута АН СССР акадэміка Валерыя Макарава, адным з першапачатковых крокаў па стабілізацыі валютнай сітуацыі ў СССР павінна быць увядзенне паралельных, так званых цвёрдых, грошай. Мэта гэтай акцыі, адзначыў акадэмік Макараў, абараніць насельніцтва, занятае ў дзяржаўным сектары, асабліва людзей з фіксаванымі даходамі, ад вакханаліі цэн, што звычайна спадарожнічае першапачатковаму этапу рыначных адносін. Механізм такой абароны абапіраецца на персанальныя чэкавыя кніжкі, у якіх людзям, занятым у дзяржаўным сектары, запісваецца частка зарплаты. Такія ж кніжкі атрымаюць пенсіянеры, студэнты і іншыя катэгорыі грамадзян, якія жывуць на дапамогу ад дзяржавы. Прадукты па чэкавых кніжках можна атрымліваць толькі ў спецыяльных магазінах па дзяржаўных (нізкіх) цэнах. **Уладальнікі чэкаў заўсёды могуць памяняць іх на звычайныя рублі па бягучаму курсу — гэта выключыць магчымасць спекуляцыі новымі плацежнымі сродкамі.**

Макараў напомніў, што падобная форма разлікаў ужо прымянялася ў Савецкім Саюзе ў канцы вайны і ў першыя пасляваенныя гады, калі існавала сістэма чэкаў, якія давалі права на скідку пры набыцці тавараў у камерцыйных магазінах.




169

— Зразумела, будзе, — адказаў Бурак. — Вось дзіва: анёба — не аднаклетная жывёліна.

Кірыла ўзяў аловак, зрабіў кропку на паперы і прадоўжываў:

— Вось такая, як кропка, і то ня будзе. Інача магіла...

Студэнты паміралі са сьмеху.

— А, ну вось, — махнуў рукой Бурак й пайшоў ізноў у студоўню.

— Пачакай, — сьмяяўся ўдагонку Малевіч, — што скажа твая графіня, калі пачуе, што ты ня ведаеш анёбы?

Бурак выйшаў з залі. Размова на хвіліну спынілася. Усе сьмяяліся, дзівуючыся, як Бурак мог здаць зоолёгію. Нарэшце размова перайшла на прафэсара.

— Э, здаць лёгка, — казаў Жук, — прафэсару толькі трэба казаць усё дрэннае пра вераб'я. Трэба казаць, што ён самы найгоршы шкоднік з усіх птушак на сьвеце, што вераб'я трэба нішчыць як шкодніка — і ўсё будзе вельмі добра. Прафэсар вам скажа, што вельмі добра ведаеце зоолёгію.

— Чаму ён так нападае на вераб'я? — дзівіліся ўсе.

— Таму, што калісьці прафэсар зрабіў вельмі каштоўны прэпарат, паклаў на вакно, расчыніў. Заняты працай, ён не заўважыў, як верабей-злодзей падляцеў да прэпарату, схапіў яго і панёс да сваіх вясёлых сяброў... Калі прафэсар схапіўся, вераб'я ўжо не было. Бедны старык бегаў па пакою й ледзь ня рваў на сабе валасы. З тэй пары няма больш шкоднай птушкі, як верабей.

— Здорава, — засьмяяўся Тамашэвіч, — у кожнага прафэсара сваё.

170

— А ў нас на тэхніцы, — усьмяхнуўся Кірыла, — адзін стары дзівак-прафэсар вельмі любе "слабы пол". Калі да яго ідуць экзаменавацца выключна студэнты, ён бывае вельмі сур'ёзны, сярдзіты. Дае такія пытаньні, на якія ніхто ня можа адказаць, і ён неміласэрна гоне ўсіх з кабінэту. Але калі толькі зьявіцца маладая студэнтка, прафэсар маладзее, ён ходзе ўсьміхаючыся, рассыпае жарты направа і налева, ставе простыя пытаньні, а калі нават на іх студэнтка ня можа адказаць, ён адказывае сам за яе і ставе ёй "вельмі добра". Дзеля гэтага перш чым ісьці на экзамен, запісываюць у сьпісак больш жанчын і сваю карту стараюцца выставіць пасьля іх.

— Таўкач ваш прафэсар, — зазначыў Тамашэвіч. — Знача, толькі ў нас на філязофіі ідэальная прафэсура.

— Вам, філёзафам, добра, — засьмяяліся тэхнікі, — прафэсары з вас нічога не вымагаюць, але што вы есьці будзеце пасьля сканчэньня школы?

— Нічога, вашых дзяцей вучыць будзем, — сьмяяўся Тамашэвіч, папраўляючы сваею рукой "грыву" на галаве.

На спрэчках канчаліся размовы. Студэнты расхадзіліся па студоўнях. Ізноў безупынку начыналі працаваць над кнігамі. Ніхто не заўважываў, як экзамены адбіваліся на здароўі, як усе твары жоўклі, як у аднаго ці ў другога зьяўляўся сухі, ледзь прыкметны кашаль. Бывалі часы, калі некаторыя кідалі палудзень, абмяжоўваючыся гарбатамі і сухой каўбаскай. Больш усіх змарнеў Кірыла. Ён не зьвяртаў увагі, што кашаль яго мацнеў, што нават часамі ў яго круцілася галава й яму рабілася дрэнна на вуліцы, ён не зьвяртаў увагі на тое, што ў яго пад вечар нават бывала

171

высокая тэмпература.

Усе ведалі, што Прага — адзін з самых найвялікшых эўрапейскіх цэнтраў па сьмяротнасьці ад туберкулёзу, але ніхто не зьвяртаў увагі на сваё здароўе. Арганізмы ўва ўсіх слабелі, марнелі: усё ж такі неміласэрна займаліся працай. І вось сказалася. Быў прыгожы вясновы ранак, калі Кірыла Бурачэўскі выйшаў на экзамен. Маладое сонца так ласкава сьвяціла й грэла зямлю. У празскіх садах сьпявалі птушкі. Усё гутаралась аб жыцьці, аб красе і шчасьці. Толькі на яго грудзёх б... цяжка. Ён чуў, як балела яму ў левым баку. ...ж такі ён ішоў, ішоў, што гэта быў яго апошні экзамен. Як толькі ён яго вытрымае, ён сконча апошні курс тэхнікі, стане інжэнерам й зможа адпачнуць і лячыцца, толькі-б вытрымаць.

Ён увайшоў у вялікі будынак, на дзьвярох якога была прыбіта чырвоная таблічка з надпісей: "Устау ставобноў механікі"[1]. Некалькі студэнт... чэхаў прайшло міма яго. Ён прапусьціў іх нап... і падняўся за імі на другі паверх. Раптам ... закашляўся. Нешта шатліва пачало хрыпець у левай палове грудзей. Ён задыхаўся: яму не хапала паветра. Нарэшце ён адкашляўся: кроў. Што такое? Ён раптам пабачыў, што ўвесь рот яго поўны салёнай гарачай крыві. Галава яго закруцілася, у вачох стала цёмна. Зазьвінела ў вушах у тысячы дробных звонаў, быццам у нейкія стаканы аб трывозе. Ён, як падкошаны, бяз памяці, зваліўся на зямлю. Кроў брызнула і заліла драбіну. Ішоўшыя перапрадзе чэхі кінуліся ды паднялі трывогу, выклікалі хуткай дапамогі й адвязьлі ў шпіталь...

Так ёкончыў свой апошні экзамен Кірыла Бурачэўскі.

172

**XI**

...Веснавое сонца даўно глядзела праз фіранкі ў прыгожую вілу, у адзін з тых дамоў, якімі пакрывалася пасьля вайны Чэхія. Залацістыя праменьні сарамліва заглядывалі ў спальню, асьвятлялі мармуровы ўмывальнік, ручнік, каберац на падлозе й пару мяккіх двайных крэслаў. Вялікае люстра пераліваласа ўсімі калёрамі вясёлкі: ад чырвонага да цёмна-зялёнага. Загорскі прыемна пацягіваўся ў пасьцелі пад белай пяр... і праціраў вочы. Яму не хацелася ўставаць ...ў пачынаўся дзень, такі самы, як учарашні, такі самы, як тыдзень назад. Прызнацца, яму ўсё гэта досыць абрыдла. Усе дні былі такія шырокія, аднастайныя, цягучыя, як туга. Усе яны пачыналіся аднолькава: спачатку ён ішоў у Студэнцкі дом, потым куды-небудзь у тэатр ці кіно, потым, увечары, забіраўся ў інтэрнат паграць у ...ы. Рэдка ён праводзіў ночы ў сваёй прыгожа...е, разам з даўшай яму прытулак. Прызнацца, і гэта чэшка таксама яму ўжо абрыдла, і віла, і ўся сямейная ўтульнасьць. Магчыма ён не радзіўся, як іншыя, сем'янінам. У даным выпадку ён нагадываў кавалерыйскага каня, якому хамут прычыняў болі. А з другога боку, як ён мог быць спакойным, калі яго прыгожая чэшка штодня за сваімі ласкамі нагадывала яму аб экзаменах, аб тым, што трэба, нарэшце, стаць доктарам. Так доўга прадоўжывацца не можа! Яго брала злосьць, ён сярдзіта кідаў сваей прыгожай пані: "Ня муч мяне", — і ішоў запёрца ў сваім пакоі. Самымі горшымі днямі для яго была субота і нядзеля, калі ён павінен быў пражыць з сваёй паняй цэлы дзень. Звычайна яшчэ зьбіраліся госьці: прыязджаў яе брат з Пі-

173

льзэна, інжынер-хэмік. Пачыналіся размовы аб кар'еры, аб жыцьці пад гукі мяшчанскага патэфону. Затое ў звычайныя дні ён чуў сябе спакойна. Чэшка йшла рана ў свой магазін, і ён бачыў яе толькі ўвечары. Ён чуў сябе поўным гаспадаром вілы. У рэшце рэшт ён ня дрэнна ўлаштаваўся. Ён мог-бы жыць, ня гледзячы на ўсю сваю нелюбоў да чэшкі. Але чуў ён, што так доўга прадоўжывацца ня можа. Экзамена ён ня думаў трымаць. Знача, рана ці позна надзея ў чэшкі стаць "пані доктаравай" будзе разьбіта, а гэта прывядзе да катастрофы... Ён павярнуўся на пасьцелі, усьміхаўся і казаў сам сабе: "Ну што ж. Хай заўтра сьмерць, а сяньня мы жывём". Ён ляжаў, з прыемнасьцей успамінаў карнавал. З Вярхоўскай ён правёў нямала прыемных часоў, хоць сама па сабе яна не цікавіла яго. Але пасьля чэшкі яна ўсё ж такі была прыемнай й цікавай, як больш рухлівая й маладая. Ён ладзіў з Вярхоўскай больш на злосьць гэтаму дзіваку Тугоўскаму.

— Ну што ж, — засьмяяўся ён, — калі яна й пападзецца ў рукі Тугоўскаму, дык ува ўсякім выпадку ня першай сьвежасьці.

Ён яшчэ паляжаў, паглядзеў праз вакно, дзе ўжо даўно рухаліся людзі, й нарэшце пачаў апранацца. Ён думаў аб тым, што сяньня ён пойдзе гуляць у карты ў інтэрнат. Толькі дзе-бы дастаць болей грошаў.

— Ага — дзе, — рашыў ён, — мая чэшка, напэўна, яшчэ не пайшла на працу. Пайду папрашу ў яе 600 корун, быццам на запіс для дзяржаўнага экзамена.

Ён хутка апрануўся і паглядзеў у пакоі да чэшкі. Яна была апранута й зьбіралася ўжо адхадзіць.

— Ах, dobre jitro, Bozena! — прамовіў Загорскі,

174

цалуючы яе руку. — Ты ўжо ідзеш... А я да цябе... У мяне сяньня экзамен, і мне патрэбны грошы на запіс.

— Колькі?

— 600 корун...

— Езус Марыя! На што такая сума вялікая? Ты звар'яцеў...

— Дзяржаўны іспыт... Разумееш, такая сума пры паступленьні ў школу, — махляваў Загорскі.

— У мяне няма такой сумы, — яе поўны твар заліўся чырвоным румянцам, й вочы сярдзіта глянулі на Загорскага.

— Ды што ж тады я буду рабіць? — рабіў трагічны выгляд Загорскі. — Зразумей, бяз гэтага я не магу трымаць экзаменаў, што ж тады будзе з маім доктарам... Няўжо ты мне ня верыш?

Чэшка маўчала.

— Я думаю: усё ж ткі ты махлюеш. Ну добра, я табе гэту суму дам, але ты мне прынясі квітанцыю ад касіра...

— Квітанцыю? Як нізка, — наморшчыўся Загорскі, — ды я табе дзвацаць квітанцыяў прынясу. Якое мяшчанства! І ты запраўды ад мяне патрэбавала-б квітанцыю?

Чэшка стаяла, адвярнуўшыся да вакна й маўчала. Ён падыйшоў да яе, схапіў яе за плечы і прытуліў яе галаву да сваіх вуснаў.

— І ты патрабавала-б ад мяне квітанцыю? —казаў ён паміж пацалункамі.

Яна нарэшце вырвалася з яго абоймаў й, сьме-

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 43.**

175

ючыся, пайшла ў другі пакой.

— Ну, — сказала яна, выходзячы з пачкай зялёненькіх крон, — вось табе грошы, але каб ты вытрымаў экзамены.

Ён падзякаваў і пацалаваў яе рукі.

— Ах, мне трэба йсьці, — спомніла яна і, насьпех накінуўшы шляпу, з дзьвярах пажадаўшы яму ўсяго найлепшага на экзаменах, палянела на працу. Загорскі пералістываў пачку крон і, сьмеючыся, думаў аб сваей лоўкай выдумцы. Сяньня ўвечары ў інтэрнаце ён будзем мець магчымасьць добра пагуляць у карты.

Увечары інтэрнат ажывіўся. У адным з яго пакояў, уведзеных для студоўні, хоць звычайна тут ніхто не вучыўся, сабралася шматлікая грамада няведама з якіх краёў. Тут былі чэхі і расейцы, украінцы і немцы і наогул міжнародныя любіцелі пашукаць шчасьця ў картах. Інтэрнат быў прадстаўлены самымі лепшымі гульцамі. Серада і балетмайстар Садоўскі запалілі сьвечы. У пакоі стала ціха, урачыста і важна. Усе твары напружана й сярдзіта сталі сачыць за картамі, углядаючыся ў рукі суседзяў. Загорскі сядзеў на краю стала і ўносіў у банк вялікія сумы. Ён гуляў азартна. Сяньня, яму здавалася, ён павінен быў выйграць.

— Банк! — крычаў ён, ні на адну хвіліну не задумываючыся. І ён зайграў.

Праз некалькі гадзін у банку было ўжо больш за 300 крон. Гульня была крупная. У пакоі было так ціха, быццам ува ўсіх людзей страх адняў усякую магчымасьць гутарыць і рухацца.

— Банк! — крыкнуў Загорскі і ў першы раз за ўсю гульню пачуў, што ён задрыжэў усім целам.

— Вока, — сказаў трымаўшы банк Садоўскі і паказаў дзясятку з тузам. Усё было скончана.

176

Загорскі праграў. З тэй пары ён пачаў хвалявацца...

* * *

Тугоўскі ня мог спаць гэту ноч. Як ранены, як ахоплены агоніяй, ён мятаўся на пасьцелі, уставаў, хадзіў па пакою і ўсё думаў аб тым, што ён заразіўся. Ён глядзеў на тое мейсца, дзе, па словах астральнага чалавека, павінна была зьявіцца жоўтая пляма, й чуў зуд, нейкае паленьне-шчакатаньне болі. Калі ён лажыўся на пасьцель, то ўскаківаў увесь абліты студзёным потам. Нарэшце ён ня вытрымаў, выйшаў у карыдор. Што такое? У студоўні праз дзьверы бачыўся сьвет. Хто мог так позна вучыцца? Ён з цікавасьцей прыадчыніў дзьверы — і на адзін момант адступіў назад ад зьдзіўленьня. За сталом пры сьвячах гулялі ў карты. Усе кінулі на яго сярдзітыя пагляды й потым зноў прыняліся за гульню.

— Як вы сюды папалі? — выгукнулі за сталом.

— Якая вам справа? Я вас не пытаю, як вы сюды папалі, — адказываў Тугоўскі, становячыся ў цёмны кут стала, каб пасачыць за гульнёй. Загорскі ў гэты момант прайграў якраз усіх 600 крон.

— Я папрашу вас адсюль выйсьці, — прадоўжываў Загорскі. — Інакш мы вас адсюль выкінем, як шмацьцё.

Тугоўскі пачынаў увесь дрыжэць ад злосьці.

[1]Аддзяленне будаўнічай механікі.

# СУМНАЕ НАВАСЕЛЛЕ

**Цэлы пасёлак з 26 домікаў быў пабудаваны ў вёсцы Кругаўка Добрушскага раёна для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Будавалі яго пяць гадоў назад. А сёння вёска, а значыць, і новы пасёлак — у спісках на першачарговае адсяленне з-за высокага ўзроўню радыяцыйнага забруджвання. Зноў пакуюць рэчы нядаўнія навасёлы. А ў пакінутых імі дамах выбіта шкло, зняты з завес дзверы, няма аконных рам. Яшчэ сотні тысяч рублёў выкінуты на вецер.**

**НА ЗДЫМКАХ: нявесела пенсіянерцы Яўгеніі ДУДАРАВАЙ: трэба збірацца ў дарогу; зноў на новае месца.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**





**Пятро БІТЭЛЬ**

# БАРУНЫ

Вёска Баруны знаходзіцца ў Ашмянскім раёне Гродзенскай вобласці. Праязджаючы праз гэту невялікую мясціну, кожны абавязкова зверне ўвагу на велічны, пабудаваны ў стылі рэнесанса касцёл, за якім размешчаны вялікі двухпавярховы гмах старадаўняга кляштара. Вёска, сягоння даволі закінутая, мае багатую і цікавую гісторыю.

Пачаткі гэтага пасялення губляюцца ў вяках. Паўстала яно праўдападобна ў канцы XII ці ў палове XIII стагоддзя на скрыжаванні двух шляхоў, з якіх адзін ішоў ад сталіцы Вялікага княства Літоўскага Вільні ў напрамку Мінска, Смаленска і Масквы, а другі злучаў гарады-крэпасці Нясвіж, Мір, Наваградак, Ліду, Гальшаны і Крэва, беручы свае вытокі з паўднёва-ўсходніх абшараў і заканчваючыся на паўночным захадзе ў надбалтыцкіх землях Ліфляндыі.

Скрыжаванне гэтых шляхоў садзейнічала ці прадумовіла ўзнікненне на гэтым месцы адразу невялікага пасялення — станцыі, якое з часам разраслося ў значную мясціну. Назва Баруны наводзіць на думку, што сяленне было закладзена ў лясной глушы, бо вядома, што ў той час большасць тэрыторыі нашага краю знаходзілася пад лясным покрывам.

Што датычыць вёскі Старыя Баруны, якая знаходзіцца на шляху ў б[illegible] Крэва за 3 кіламетры ад [illegible]тэчка, то відавочна, што гэта мясцовасць яшчэ больш даўняга паходжання. Ёсць меркаванне, што вёска была закладзена на ўзбярэжжы вялікага баравога лесу і таму атрымала назву Баруны. [illegible]ж пасярод бору паўстала [illegible] сяленне, тады старая вёска ў адрозненне ад новай аўтаматычна стала называцца Старыя Баруны.

Дакументальных звестак аб пачатку Барунаў няма. Калі яны і былі, дык загінулі ў кругаверці гістарычных падзеяў. Гэты недахоп запоўніла народная фантазія, стварыўшы нямала легенд, адна з якіх, падхопленая пазней царкоўнікамі, звязвае паўстанне паселішча з так званым цудоўным з'яўленнем у бары іконы багародзіцы, з манахамі, кляштарам і г. д. Даводзіцца прызнаць, што гэта і іншыя легенды не вытрымліваюць крытыкі, бо касцёл, кляштар, ікона і іншае з'явіліся не на пустым месцы, а ў пасёлку, які да таго часу існаваў ужо некалькі стагоддзяў.

У другой палове XVI стагоддзя разгарэлася ў Вялікім княстве Літоўскім вострая рэлігійная барацьба. Пад уплывам рэфарматараў (Лютэр, Кальвін, Цвінглі і інш.), якія выступалі ў Заходняй Еўропе супроць каталіцызму, у 1550—1570 гадах адбываліся на нашых землях масавыя адрачэнні ад каталіцкай веры пераважна сярод магнатаў, багацейшай шляхты і некаторых мяшчан. Каталіцызм, прынесены на нашы землі з Польшчы з часу Ягайлы, аказаўся ў корані падважаным і ледзь не канчаткова перамоожаным новымі рэлігійнымі плынямі. Значна сцесненым аказалася і праваслаўе — вера, якая мела ў княстве куды большы стаж.

Аднак хутка праявілася слабасць новых рэлігійных вучэнняў у тым, што іх было некалькі і што яны выступалі адно супроць другога. Каб не здаць канчаткова сваіх пазіцый, рымска-каталіцкая царква накіравала да нас свой перадавы місіянерскі атрад — ордэн езуітаў. Езуіты і манахі іншых каталіцкіх ордэнаў выкарысталі слабасць новых пратэстанцкіх вучэнняў і павялі энергічны наступ "словам

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# АДЗІН З ТЫХ, КАМУ МЫ ЎДЗЯЧНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

параўнанні з польскімі перакладамі). Акрамя таго, шмат увагі аддае Г. Бідэр вывучэнню германізмаў у старабеларускай мове, паказу шляхоў іх пранікнення і спосабу іх засваення, асабліва ў артыкуле "Засваенне нямецкіх назоўнікаў у старабеларускіх помніках на марфалагічным узроўні". У публікацыі "Роля польскай мовы пры запазычанні слоў падчас даўніх нямецка-заходнерускіх кантактаў" робіцца спроба на аснове фанетычных прыкмет вызначыць шляхі пранікнення лексічных германізмаў у старабеларускую мову праз пасрэдніцтва польскай з улікам слоў не толькі пісьмовага, але і дыялектнага паходжання. Істотнае значэнне аўстрыйскі вучоны надае і другому напрамку — вызначэнню ролі нямецкіх словаўтваральных элементаў, асабліва суфікса "е" ў старабеларускай мове. Гэтае пытанне даволі шырока і кампетэнтна разгледжана ў артыкуле "Нямецкі словаўтваральны суфікс "е" ў заходнерускіх тэкстах..."

Аднак, безумоўна, самая значная праца аўстрыйскага вучонага — гэта яго манаграфічнае даследаванне "Нямецкія словаўтваральныя элементы ў славянскіх мовах", выдадзенае ў 1985 годзе ў двух тамах. У ім разгледжаны пытанні пра засваенне лексічных словаўтваральных элементаў нямецкага паходжання ў славянскіх мовах, пра спалучэнне словаўтваральных марфемаў нямецкіх назоўнікаў і дзеясловаў са славянскімі карнявымі марфемамі. Звернута істотная ўвага на аналагічныя працэсы ў беларускай мове, раскрыта роля і значэнне нямецкіх словаўтваральных марфем як плённага сродка пры ўзнікненні новых беларускіх слоў. Такі напрамак даследаванняў даў магчымасць аўтару стварыць аб'ёмную картатэку для "Слоўніка германізмаў у старабеларускай мове", які рыхтуецца да выдання.

На працягу дзесяцігоддзяў аўстрыйскі лінгвіст рыхтуе абагульняючую манаграфію па нямецка-славянскіх моўных кантактах ад позняга сярэднявечча да сучаснасці з улікам міжславянскіх і славяна-нямецкіх лінгвістычных сувязяў. Паралельна праводзіцца грандыёзная работа па стварэнню шматтомнага "Слоўніка германізмаў у славянскіх мовах. 1300—1800 гады". (Падрыхтаваны літары А, Б, В, Г — больш 250 старонак).

Апошнім часам значная ўвага аўстрыйскага славіста скіравана на пошукі і выданне славянскіх рукапісаў і першадрукаў з аўстрыйскіх бібліятэк. Здадзены ў выдавецтва зборнік "Славянскія рукапісы з Зальцбургскай універсітэцкай бібліятэкі" (больш за 300 старонак машынапіснага тэксту).

Акрамя таго, у Зальцбургу Г. Бідэр як выкладчык распрацаваў і прачытаў некалькі курсаў як па агульнай славістыцы, русістыцы, паланістыцы, так і па беларускаму і украінскаму мовазнаўству. Найбольш значны адбітак беларуская тэматыка знайшла ў лекцыях па "Нямецка-славянскіх моўных кантактах", "Тэорыі моўных кантактаў", "Уводзінах у славянскае мовазнаўства" і інш. Непасрэдна беларусістыцы прысвечаны курс "Беларуская мова для русістаў".

Такім чынам, дзякуючы даследчыцкай дзейнасці Г. Бідэра, звязанай з беларусістыкай, у аўстрыйскай славістыцы ўпершыню склаліся спрыяльныя ўмовы для шырокага параўнальнага вывучэння моўных кантактаў як у галіне міжславянскіх, так і нямецка-славянскіх моваў, бо, як вядома, у мінулым нават такія выдатныя даследчыкі аўстрыйскай славістыкі, як Ф. Міклошыч — аўтар чатырохтомнай "Параўнальнай граматыкі славянскіх моваў", а таксама В. Ягіч, загадчык кафедры славістыкі ў Вене з яго сусветна вядомым даследаваннем "Гісторыя славянскай філалогіі", — ні ў адной са сваіх прац не звярнуліся да беларускай тэматыкі. Таму навуковая дзейнасць Г. Бідэра па параўнальнаму даследаванню славянскіх і нямецкай моваў з падключэннем беларускай спрыяе ліквідацыі той белай плямы ў аўстрыйскай славістыцы, што існавала там больш за стагоддзе.

Г. Бідэр у якасці навукоўца некалькі разоў наведваў Беларусь, што, безумоўна, аказала плённы ўплыў на яго далучэнне да беларусістыкі. Упершыню ён быў у рэспубліцы ў 1977 годзе, калі ў якасці стажора працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР. Другі раз быў запрошаны на Міжнародны сімпозіум "Беларуская мова, літаратура і культура ў кантэксце моваў, літаратураў і культураў народаў свету", арганізаваны ў маі 1990 года пры БДУ. Як вынік гэтай паездкі ў 1991 годзе з'явілася грунтоўная і аб'ёмная публікацыя Г. Бідэра "Першае і другое адраджэнне беларускай мовы і культуры" (беларуская, руская і польская мовы на Беларусі з пункту погляду моўнай палітыкі і моўнай сацыялогіі), у якой глыбока прааналізаваны як працэсы адраджэння беларускай культуры і асабліва мовы, так і русіфікацыі беларускага насельніцтва ў XX стагоддзі, ускрыты іх прычыны, паказаны іх рухаючыя сілы. А праз год аўстрыйскі славіст прыняў актыўны ўдзел у Міжнародным кангрэсе беларусістаў, дзе на секцыі мовазнаўства выступіў з дакладам "Інтэрпрэтацыя нямецкіх лексічных элементаў у беларускай мове з пункту погляду нямецкай дыялекталогіі", які прыцягнуў увагу спецыялістаў і выклікаў добрыя водгукі калегаў. Ад кангрэса ў Бідэра засталіся прыемныя ўражанні: "Кангрэс даў мне моцныя імпульсы для далейшых даследаванняў у галіне беларусістыкі: я праслухаў шмат добрых дакладаў, пазнаёміўся з многімі калегамі з Беларусі і іншых краін..."

І калі раней аўстрыйскі лінгвіст больш увагі аддаваў праблемам славянскага мовазнаўства, то ў апошні час, як нам здаецца, не без уздзеяння навуковых кантактаў з Беларуссю, беларусістыка ўсё шырэй і грунтоўней уваходзіць у абсяг яго навуковых і выкладчыцкіх інтарэсаў. Пра гэта ярка сведчаць асабліва яго планы на будучыню: напісаць грунтоўную манаграфію пра адраджэнне беларускай мовы і культуры, арганізаваць у будучым семестры семінар па праблемах "Моўная палітыка ў Савецкім Саюзе", дзе будуць разгледжаны пытанні моўнай, літаратурнай і культурнай палітыкі на Беларусі і Украіне, і, больш таго, выдаць кнігу "Уводзіны ў беларускую філалогію. Для тых, хто гаворыць па-нямецку". Пажадаем яму творчых поспехаў і плённых здзяйсненняў у гэтай высакароднай справе!

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ.**

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# У ГАСЦЯХ У НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

## "...ІМКНУ Я Ў ЗОЛЬ І ВОСЕНЬ ШУКАЦЬ КРЫНІЦ, ЗЬ ЯКІХ Я НЯ ПІЛА"

*— А ці ведаеце вы, як склаўся лёс тых вашых сяброў, хто паехаў па веды ў Прагу?*

— З тых маіх знаёмых, што выехалі ў 1921 годзе на вучобу ў пражскі універсітэт, амаль што ўсе памерлі ад сухотаў. Ад нядобрых умоў жыцця, ад кепскай ежы. Студэнты ж атрымлівалі там мізэрную стыпендыю, на якую існаваць было даволі цяжка.

**У 1922 годзе Н. Арсеннева выйшла замуж за Ф. Кушаля і выехала з Беларусі ў Польшчу. Больш як 15 год пражыла там. Але звычайна штогод наведвала сваю родную Вільню або Валожыншчыну, мужавых бацькоў. Насуперак усім неспрыяльным абставінам, адарванасці ад Беларусі яна не кінула пісаць вершы. У 1927 годзе ўбачыў свет першы зборнік "Пад сінім небам", а ў 1935—1936 гадах падрыхтаваны да друку і другі. Калі чытаеш гэтыя вершы сёння, атрымліваеш вялікае эстэтычнае задавальненне. Яны вельмі далёкія ад палітыкі, ад тагачасных праблем, але ў іх — стыхія жыцця і прыроды; яны прасякнуты ціхім каханнем да роднай старонкі. Нягучныя, вытанчаныя пачуцці, нечаканыя вобразы і параўнанні, з усяго гэтага, як адзначаў М. Танк, паэтка ўмее вязаць надзвычай прыгожыя карункі.**

**Дзень асеньні ўстае панад нівамі,**
**праціраючы вочы сьлязлівымі,**
**іржавай рызай лісьця ды анучамі**
**брудна-шэрых туманаў абкручаны...**

**1939 год паклаў канец спакойнаму, але аднастайнаму жыццю Н. Арсеннявай. Пачалася другая сусветная вайна. Муж яе, польскі вайсковец, трапіў у савецкі палон. Памерла ў Вільні маці. Яна з дзецьмі пераехала да брата ў Вілейку.**

*— Не баяліся? Хіба вы нічога не ведалі пра рэпрэсіі супраць "ворагаў народа", якія ў Савецкай Беларусі мелі масавыя маштабы?*

— Не. Нічога не ведалі. Жылі спакойна. Нікога не баяліся. Я мела адрас Максіма Танка, ён мяне ўладзіў працаваць у рэдакцыю "Вілейскай газэты" карэктарам. Бяда прыйшла нечакана. Ранкам пастукалі ў дзьверы і сказалі: "Вы арыштаваны". Загадалі спакавацца. Але ж у мяне нічога не было, усе рэчы засталіся пад Варшаваю, дзе мы жылі. Пагрузілі ў таварныя вагоны і завезлі ў Казахстан. І толькі перад самай вайной я вярнулася са ссылкі. Мне муж пасля расказваў, што, калі ён быў у палоне, прыйшлі і загадалі усім, хто ведае, дзе яго сям'я, пісаць ім лісты. Такім вось ашуканствам даведаліся адрасы сем'яў і сурова пакаралі жанчын і дзяцей.

*— А як вам удалося так хутка вярнуцца са ссылкі? Шчаслівы выпадак?*

— Мусіць што шчаслівы. За мяне хадайнічалі Танк і Купала. Напэўна, ім давялося прыкласці шмат намаганьняў, каб пераканаць пільных начальнікаў, што я ні ў чым не замешана. Дарэчы, па хадайніцтву таго ж Янкі Купалы быў вызвалены з лагера мой муж. Разам з Купалам яны ў 1919 годзе працавалі ў Вайсковай камісіі. Інакш Францішка проста расстралялі б.

*— У гэты час вы не пісалі вершаў?*

— Не да вершаў было. Хаця б выжыць.

*— Як хутка пасля таго, як вы сустрэліся з мужам, трапілі ў Мінск?*

— Мы бачылі з Дораў, дзе жылі ў бацькоў мужа, як гарэў Менск. Вельмі хацелася даведацца, што з ім сталася. Некаторыя ўжо езьдзілі, гаварылі, што там нейкі Беларускі камітэт ёсьць. Нас гэта зацікавіла. Я вырашыла пайсьці ў разведку, і са мной мужаў брат Пятрук. Ужо пад'ехалі пад самы Ракаў, як раптам — немцы. Арыштавалі нас і пасадзілі ў гміну. Седзячы ў гэтай гміне, я стала нявольным сьведкам таго, як немцы ажыццяўлялі акцыю знішчэньня яўрэяў, як жаўнеры здзекаваліся, як пакутавалі людзі... Гэта жах...

**Выў вецер...**
**Але й ім казалі засьпяваць,**
**і за часіну усе і пляскалі й сьпявалі.**
**Прысеўшы на бруку, брахаў у самы твар**
**ім кулямёт загады сталяй...**
**(Зь верша "Акцыя").**

Пасьля нас выпусьцілі, і мы яшчэ раз паехалі ў Менск.

*— Хто заснаваў Беларускі камітэт?*

— Беларусы. Радаслаў Астроўскі, быў такі з Вільні, раней ён працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні. Антон Адамовіч, Савёнак толькі што вярнуліся з лягераў і актыўна ўзяліся за беларускую справу.

*— Скажыце, а якія былі ў людзей адносіны да немцаў, калі тыя ўвайшлі ў горад?*

— Бачыце, людзі, якія ні за што пацярпелі ад Савецкай улады, а такіх было не так ужо і мала, якраз сустракалі немцаў з надзеяй, як збавіцеляў. Па-другое, абсалютна ніхто не думаў, што немцы такія нелюдзі. Беларусы ж хацелі проста наладзіць сваё культурнае жыццё.

*— Але ж ці былі члены Беларускага камітэта такімі наіўнымі, што не разумелі, з якімі мэтамі прыйшлі фашысты на беларускую зямлю? Напрыклад вы, спадарыня Арсеннева, ужо з першых дзён акупацыі былі сведкай жорсткай бесчалавечнай акцыі супраць яўрэяў.*

— Беларусь і да вайны была пад чужынцамі. Савецкая ўлада метадычна зьнішчала цьвет [illegible]ацыі, яе інтэлектуальныя сілы[illegible]му прынцыповай розьніцы не было. Абое рабое, як кажуць у народзе.

*— Калі прыйшло працверажэнне, разуменне таго, што ад немцаў нічога добрага чакаць не варта?*

— На немцаў [illegible]ктычна, ніхто не спадзяваўся. Ілк[illegible] абсалютна ніякіх не было. Думалі, як урваць нешта, каб аблягчыць жыцьцё нашых людзей ва ўмовах акупацыі. Якое змаганьне было, каб немцы дазволілі адчыніць беларускія школкі... Настаўніцкая семінарыя дзейнічала, гімназія, фельчарская школа ў Баранавічах... Любую магчымасьць для разгортваньня беларускай справы мы стараліся выкарыстаць.

*— Што б вы маглі расказаць пра партызан?*

— Калі адступалі Саветы, а па іх пятах ішлі немцы, дык велізарная колькасць жаўнераў засталася ў нямецкім тыле. Немцы хутчэй ішлі, чым Саветы адступалі. Лясы былі поўныя людзей. Хлопцы пайшлі прасіцца да сялянаў, маўляў, вазьміце за работніка. У той момант партызанамі іх ніхто не называў. Яны спраўна працавалі. А пасьля прайшоў слых, што ўсіх людзей, якія працуюць у сялян, вывязуць у Нямеччыну на работы. І тады яны пачалі зноў уцякаць у лес, арганізоўваць там атрады. Сяляне кепска ставіліся да іх, бо партызаны часта займаліся грабежніцтвам. Прыйдуць уночы, забяруць усё, што хочуць. А як людзі не хацелі даваць, то і прыстрэліць маглі.

*— На жаль, такія бандыцкія партызанскія атрады сапраўды былі. Пра гэта мы ўжо ведаем. Сяляне траплялі ў такім выпадку ў пастку. Уначы грабяць свае, а днём — немцы. Тысячы вагонаў з зернем, іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі ішлі на Захад з Беларусі. У час вайны на Беларусі былі спалены сотні вёсак. Тут, у Амерыцы, мне давялося пачуць, што палілі не толькі немцы, але і партызаны. Што можаце сказаць наконт гэтага?*

— Палілі немцы. На 10 кіламетраў ад лясоў і пушчаў усё спалілі. Бо ад партызан не было ратунку. Фактычна, калі распачыналася акцыя, сяляне не хацелі пакідаць сваіх хат. І немцы спальвалі хаты з людзьмі. Цётку майго мужа так спалілі разам з хатай. Моладзь маглі яшчэ насільна павыцягваць і адправіць у Нямеччыну, а са старымі не цырымоніліся, палілі — і ўсё. Асабліва лютавалі немцы ў 1943—1944 гадах, перад канцом. І яшчэ: палілі ўкраінскія і літоўскія паліцыянты, зразумела, са згоды сваіх шэфаў-немцаў.

*— Наколькі я ведаю, вы, спадарыня Арсеннева, працавалі ў час вайны ў "Беларускай газэце", што выходзіла ў Мінску. Я разумею, што гэта быў вельмі няпросты час. З аднаго боку, пры маўклівай згодзе акупантаў дзейнічалі беларускія школкі, выходзілі беларускія падручнікі: працаваў тэатр, ладзіліся выстаўкі, а з другога — палалі вёскі з людзьмі, вывозіліся ў Нямеччыну моладзь, вешалі і расстрэльвалі камуністаў і партызан... Як жа вам працавалася?*

— Я была прыпісана стылістам да рэдакцыі. Бо тых, хто не меў ніякай працы, вывозілі ў Нямеччыну. Майму сыну Владэку тады было 17 ці 18 год. Яго таксама прыпісалі да газэты, ён быў пасыльным, вазіў матэрыялы ў друкарню.

А я такім чынам мела магчымасьць пісаць вершы, перакладала на беларускую мову п'есы для нашага тэатра, стварала лібрэта. Шмат друкавалася ў нашай газэце.

**Сапраўды, Наталля Арсеннева надзвычай многа піша ў гэты перыяд. Калі ў даваенных вершах яна — як бы над жыццём, пасіўны назіральнік, то цяпер проста ўрываецца ў самую гушчыню. Адзін з найбольш моцных і дасканалых твораў — верш "Паўшым" (пазней аўтарка памяняла назву — "Палеглым"). Ён быў надрукаваны у "Менскай", а пасля і ў "Беларускай газэце". Гімнам, прачулым рэквіемам, якім упершыню паэтка рэагавала на вайну, назваў я[illegible]ітаратурны крытык А. Адамовіч[illegible]**

**...Пад крыжам, бяз крыжа, нацятаю галінай**
**на жорсткі, гойстры жвір спаць ці адзін прылёг...**
**Зьмяшалася зь пяском чупрына ма[illegible]ладая,**
**боль выпіў сінь вачэй і [illegible]ежных вуснаў кроў.**
**Васковаю сьвячою над імі восень тае,**
**і сьніць**
**адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.**
**Ня рушіць іх нішто... Жахлівыя змаганьні,**
**магутны чар вайны, крывавыя сьвітаньні**
**больш не хвалююць іх...**
**Яны прайшлі свой шлях.**

**Дарэчы, праца ў "Беларускай газэце" не гарантавала яе супрацоўнікам уласную бяспеку. Тым, хто пераходзіў межы дазволенага, пагражала хуткая расправа. Ледзь не паплацілася галавою за адзін са сваіх вершаў і Наталля Арсеннева.**

**...Годзе!**
**Годзе нарэшце,**
**годзе**
**чарвякамі зьвівацца, поўзаць!**
**Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,**
**хоць ісьці нам парой і коўзка, —**
**пасьмяёмся яшчэ і зь ліха!**
**Досыць падаць прад кожным ніцма!**
**Лепш на момант**
**агнём успыхнуць,**
**чымся літасьцяй век давіцца!**
**Што далі нам калі чужыя?..**

**Як напятая струна, гучаў голас паэткі ў вершы "Годзе" апублікаваным у канцы 1942 года. І гэты настрой моцна не спадабаўся нямецкім уладам. Аўтар была выклікана на допыт у палітычную паліцыю, і толькі удалая інтэрпрэтацыя верша перакладчыцай Юльляннай Дубейкаўскай уратавала Арсенневу ад рэпрэсіяў.**

*— Большую частку жыцця вы пражылі на эміграцыі — Расія, Польшча, Казахстан, Нямеччына, Амерыка. Але ўвесь час вы — паэтка Беларусі, што бясконца верыць у свой край, які дае натхненне, у свой народ, у яго вялікую будучыню. Цікава, якое ў вас уяўленне пра сённяшнюю Беларусь, з якой вы рассталіся амаль што 50 гадоў назад?*

— Пра цяперашнюю Беларусь я няшмат ведаю, на жаль. Жыву даволі адасоблена. Хаця выпісваю часопісы, газэты. Шмат цікавага прысылаў мне звычайна Янка Запруднік з Нью-Ёрка. Ён жа мае шмат літаратуры. Іншым разам я проста не магла зразумець, чаму Беларусь за ўсе гэтыя гады перастала быць беларускай. У маю бытнасьць яна была яшчэ беларускай. Што здарылася? Як магло гэтак стацца?

Апошнім часам мне пішуць лісты з Беларусі дасьледчыкі, паэты. Я ім адказваю з радасьцю. Для мяне гэта тоненькая нітачка сувязі з далёкай Бацькаўшчынай.

**...Каля чатырох гадзін гутарылі мы з Наталляй Арсенневай. Яна б яшчэ працягвала і працягвала, з неверагоднай дакладнасцю прыгадваючы падзеі 50-ці ці нават 70-гадовай даўнасці. У манатоннай яе споведзі ні разу не з'явілася англійскае слова, хіба што толькі рускае іншы раз. Але гэта зразумела — ад унучкі Наталлі. Адным простым сказам яна магла намаляваць цэлую карціну, гэткі жывапісны партрэт часу. З гукамі, пахамі, колерамі.Прыгадаліся словы яе "Малітвы":**

**Магутны божа! Ўладар сусьветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**над Беларусяй ціхай і ветлай**
**рассып праменьне Сваё хвалы.**
**Дай спор у працы будзённай, шэрай,**
**на хлеб штадзённы, на родны край.**
**Павагу, сілу і веліч веры**
**у нашу праўду, у прышласьць — дай!**
**Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,**
**учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі свабодным, зрабі шчаслівай,**
**краіну нашу і наш народ!**

**Падумалася, якая ж гэта несправядлівасць, глупства, нарэшце, што беларускі народ дасюль не ведае сваю Паэтку. Паэтку складанага лёсу і вялікага таленту, якая ніколі — ні адным радком, ні адным учынкам не здрадзіла яму. Н. Арсеннева піша вершы і цяпер.**

**На развітанне яна прынесла мне са свайго пакойчыка два аркушы паперы, на якіх ад рукі было напісана:**

**Чарнобыль**
**Весьні ранак...**
**Ужо на парозе**
**я прыпыняю хаду:**
**надта ж хораша знэўку бярозы**
**карагоды на ўзгорках вядуць!**
**Іх імклівыя рукі на сіні**
**далячынь ткуць празрысты вузор,**
**Курапаты,**
**Чарнобыль,**
**Катыні**
**ім не засьцяць ні вёснаў, ні зор.**
**Мне ж...**
**мне мроіцца іншае раньне:**
**Хлопчык з пужкаю... Статак... раса...**
**Ўпяршыню ў поле выгнаў ён сяньня...**
**Красавік...**
**Люба ў сонцы гайсаць!**
**Сонца ж — скрозь!**
**Уваччу, у лазовым,**
**жоўтым пухам прыбраным гальлі,**
**Нат у шчаснасьці той, без назову,**
**ад якое аж сэрца баліць!**
**І няўпрыцям нікому з худобы чалавечай,**
**стоены сьцень,**
**чорны сьцень... найчарнейшы**
**Чарнобыль**
**Ужо крые, накрыў іхні дзень,**
**што з худой пастушковае жменькі**
**хутка выпадзе пужка,**
**што ён,**
**як і безлічы й меньшых, маленькіх,**
**моўчкі прымуць пакутлівы скон,**
**што узноў над маёй Беларусяй**
**прарасце, забуяе бяда,**
**што...**
**ды лепей вазьму, памалюся,**
**да людзкага**
**і свой боль дадам.**
**Божа! Божа! Адзіны ў Сусьвеце,**
**Хто ўсё знае, ўсё можа,**
**зрабі ж,**
**каб за нас не пакутвалі дзеці,**
**не яны каб,**
**а мы несьлі крыж!**

**Таццяна АНТОНАВА.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 43.**

